ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 12 (2466) 21 сакавіка 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

## МАЙСТАР



Усё жыццё Віктара Кульпіна звязана з музыкай. Пятнаццаць гадоў ён аддаў выкладчыцкай працы ў Мінскім інстытуце культуры. Абараніў кандыдацкую дысертацыю. Аднак сустрэча з вядомым музычным майстрам В. Пратасевічам змяніла яго жыццё. Яго працы зачаравалі Кульпіна сваім гучаннем, і ён паспрабаваў сам зрабіць штосьці падобнае. Спачатку гэта былі саламяныя дудачкі, потым -- чароткі, жалейкі і шумавыя інструменты. Цяпер майстар вырабіў і беларускую дуду. Інструменты майстра Кульпіна гучаць у многіх фальклорных калектывах Беларусі. Ёсць іх экземпляры і ў Іспаніі, Аўстрыі, Італіі, ЗША і Канадзе.

НА ЗДЫМКАХ: Віктар КУЛЬПІН і яго музычныя інструменты.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.



## "БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІ САЮЗ ПАВІНЕН ГРУНТАВАЦЦА НА БАЛАНСЕ ЎЗАЕМНЫХ ІНТАРЭСАЎ ДЗЯРЖАЎ І БЫЦЬ АСВЯЧОНЫ ВОЛЯЙ ІХ НАРОДАЎ"

**З ЛІДЭРАМ ПАРТЫІ КАМУНІСТАЎ БЕЛАРУСІ, СТАРШЫНЁЙ ФРАКЦЫІ ПКБ У ПАРЛАМЕНЦЕ РЭСПУБЛІКІ СЯРГЕЕМ КАЛЯКІНЫМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ІНТЭРФАКСА" ВЯЧАСЛАЎ ЗЯНЬКОВІЧ.**

**-- Сяргей Іванавіч! Нядаўні візіт у Маскву Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі паказаў, што інтэграцыйныя працэсы паміж нашай рэспублікай і Расіяй сапраўды адбываюцца. Прычым настолькі інтэнсіўна, што кіраўнікі абедзвюх дзяржаў усур'ёз задумаліся над магчымасцю стварэння наддзяржаўных кіруючых структур. Што вы ўкладваеце ў паняцце "беларуска-расійская інтэграцыя"?**

-- Лепш скажу, чаго я ў яго не ўкладваю. Перш за ўсё гэта не ўваходжанне Беларусі ў састаў Расійскай Федэрацыі, як гэтага хацеў бы, напрыклад, спадар Жырыноўскі. Гэта не аднаўленне Савецкага Саюза, тым больш той мадэлі, якая існавала на працягу 80-х гадоў.

Для беларуска-расійскай садружнасці многае можна было б узяць за аснову з падпісанага ў 1922 годзе саюзнага дагавора.

Беларуска-расійскі саюз павінен абавязкова грунтавацца на балансе ўзаемных інтарэсаў дзяржаў і быць асвячоны воляй іх народаў. Лічу, што пасля таго, як саюзны дагавор пройдзе ратыфікацыю ў парламентах абедзвюх краін, яго неабходна вынесці на ўсенародны рэферэндум як у Беларусі, так і ў Расіі. Толькі пасля гэтага магчыма рэальнае аб'яднанне дзвюх краін.

У апошні час мусіруюцца думкі на тэму аб нібыта існуючай пагрозе ўшчамлення суверэнітэту Беларусі ў выпадку аб'яднання з Расіяй. Такой пагрозы не будзе, калі ў саюзны дагавор залажыць аднабаковае права вета на прыняцце любога рашэння любой з маркуемых да стварэння наддзяржаўных кіруючых структур.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

З ВАНДРОЎКІ Ў АЎСТРАЛІЮ

## УСЯКІ НАРМАЛЬНЫ ЧАЛАВЕК — НАЦЫЯНАЛІСТ

**Не так даўно беларускім журналістам Аляксандру Старыкевічу і Святлане КАРПЯКОВАЙ давялося пабываць у Аўстраліі, дзе яны сустракаліся з беларускай дыяспарай. Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ падзяліўся з карэспандэнтам "Голасу Радзімы" сваімі ўражаннямі.**

Ідэя з'ездзіць у Аўстралію і паглядзець, як жывуць беларусы на другім канцы свету, узнікла даўно. У Аўстраліі ёсць некалькі месцаў, дзе беларуская дыяспара трымаецца разам і мае свае рэгіянальныя арганізацыі. Гэта Сідней, Мельбурн, Адэлаіда. Беларусы жывуць і ў іншых гарадах краіны, але не заўсёды яны аб'яднаныя. І хаця паехалі адсюль даўно і здаецца, што ў іх ужо н... сталося нічога, акрамя с...х успамінаў, гэтыя людзі захавалі вялікую цікавасць да падзей на радзіме. Яны неабыякавыя да праблем Беларусі, таму што на чужыне яны не проста захаваліся, а адчуваюць сябе сапраўд... беларусамі. Гэта іх дзеці ... больш аўстралійцы, мову бацькоў у лепшым выпадку разумеюць, але мала хто гаворыць на ёй. А тыя, каму сёння за 60, будуць адчуваць сябе беларусамі да апошняга свайго часу.

Для мяне гэта была першая з замежных паездак, дзе я сустракаўся з землякамі, таму ўсё вельмі ўразіла. Людзі, якія не маюць магчымасці праводзіць навуковыя даследаванні на радзіме, робяць гэта там. У іх штогод праходзяць навуковыя семінары на гістарычныя тэмы. Там ідзе сапраўднае грамадскае жыццё. Акрамя іншых прычын, справа, можа, яшчэ і ў тым, што яны зусім мала часу правялі пад Саветамі, многія з Заходняй Беларусі паехалі адразу пасля вайны, і іх не кранула страшэнная камуністычная ломка.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

*НАЛЕЖАЦЬ І НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

## ТАДЭВУШ ГАРЭЦКІ

**Наша беларуская талерантнасць і памяркоўнасць часам робяць нас жабракамі. Баімся патрабаваць належнае, саромеемся адстойваць сваю маёмасць. Браты-суседзі даўно ўжо падзялілі паміж сабой культурную спадчыну Вялікага Княства, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, пакінуўшы беларусам нейкія абшмоўганыя, як вясновая сціртa, кавалкі. Цяпер пакрысе ўспамінаем мы забытыя і страчаныя імёны, нанова вяртаем у шэрагі беларусаў мастакоў, дойлідаў, навукоўцаў, паэтаў, запісаных у чужыя энцыклапедыі. Наспеў час успомніць яшчэ аднаго нашага земляка, меўшага еўрапейскую славу, лёс якога быў таксама незвычайны, як і эпоха, у якую ён жыў.**

Род Гарэцкіх быў некалі вядомым і заможным. Прапрадзед Тадэвуша Міхал герба Даленга быў у канцы XVII стагоддзя гарадскім суддзёй у Хэлме. Дзед мастака Валенцій жыў на Віленшчыне, у 1778 годзе мы сустракаем яго на пасадзе падстаросты і скарбніка лідскага. Пад Вільняй Гарэцкія мелі ў той час маёнтак Саленікі, дзе пабудавалі касцёл. У 1770 годзе Валенцій Гарэцкі атрымаў на ленных правах маёнтак Гаўе, ці інакш Біскупцы, на Лідчыне. Дзед мастака быў у свой час вядомай асобай -- адзін з кіраўнікоў масонства Беларусі і Літвы, мецэнат, сябра Якуба Ясінскага, Ю.Нямцэвіча. Валенцій Гарэцкі меў двух сыноў -- Іосіфа і Антонія і дзвюх дачок, адна з якіх -- Схаластыка, пабраўшыся з Мельхіёрам Ваньковічам, стала маткай знакамітага беларускага мастака Валенція Ваньковіча. Пэўна, талент быў фамільнай рысай роду Гарэцкіх.

Бацька мастака -- Антоній Гарэцкі -- добра вядомы аматарам польскай літаратуры. Гэта знакаміты байкапісец, філамат, сябра Адама Міцкевіча, адзін з актыўных дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху. Але гэтая постаць заслугоўвае асобнага аповяду. Дарэчы, амаль кожны чалавек у сям'і Гарэцкіх уяўляў сабой Асобу. Бабуля мастака на працягу дзесяцігоддзяў была "сумленнем" адукаванай Вільні: да яе звярталіся за радай, трапіць у яе салон лічылася гонарам. Сама яна была палкай патрыёткай і такімі ж выхоўвала сваіх дзяцей.

(Працяг на 5-й стар.).

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

БЕЛАРУСЬ — ЮГАСЛАВІЯ



6--8 сакавіка адбыўся афіцыйны візіт у Рэспубліку Беларусь Прэзідэнта Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Зорана Лiліча.

Прайшлі перагаворы Зорана Ліліча з Аляксандрам Лукашэнкам, Сямёнам Шарэцкім, Міхаілам Чыгірам. Па выніках візіту падпісаны сумесныя дакументы.

НА ЗДЫМКУ: перагаворы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра ЛУКАШЭНКІ і Прэзідэнта Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Зорана ЛІЛІЧА адзін на адзін.

ДЗЕНЬ 15 САКАВІКА

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

З Днём Канстытуцыі, які адзначаўся ў Беларусі як дзяржаўнае свята 15 сакавіка, павіншавалі народ Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. С.Шарэцкі, у прыватнасці, адзначае: "На парозе XXI стагоддзе. Таму немагчыма будаваць сваё жыццё, знаходзячыся ў палоне былых уяўленняў. Не трэба аддавацца марам і ўзводзіць паветраныя замкі на пяску. Надышоў час зразумець, што толькі ад нас саміх, нашага жадання, уласных намаганняў і імкненняў залежыць наш дабрабыт, наша цяперашняе і будучае. Знешняя фінансавая дапамога (і гэта пацвярджае сусветная практыка) не здольная кардынальна змяніць сітуацыю. Нашы праблемы трэба вырашаць нам самім.

І найважнейшыя з іх -- вывад краіны з эканамічнага крызісу, пад'ём культуры і адукацыі на аснове, як мне ўяўляецца, агульнанацыянальнай ідэі. Ідэі, якая аб'ядноўвае прадстаўнікоў розных партый, рухаў і веравызнанняў, узростаў і перакананняў. Такая ідэя-мэта заключаецца ў тым, каб зрабіць наш агульны дом, нашу Беларусь, свабоднай, дэмакратычнай, квітнеючай краінай. Гэтая ідэя павінна знайсці водгук у нашых сэрцах і душах. Бо беларускі народ заўжды вылучаўся таленавітасцю, руплівасцю і ўменнем працаваць.

Для таго каб пабудаваць сацыяльную прававую дзяржаву, неабходна правесці вялікую работу па напаўненні асноўных прынцыпаў, закладзеных у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, канкрэтным зместам. Гэта значыць -- стварыць заканадаўчую базу".

***

У Звароце Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь падкрэсліваецца, што "пачатыя Канстытуцыяй пераўтварэнні ў палітычнай сферы суправаджаюцца глыбокімі зменамі ў эканоміцы, духоўным жыцці. Беларусь сёння -- паўнапраўны суб'ект міжнароднага жыцця".

"Абвешчаны Канстытуцыяй лозунг: "Мы, народ Рэспублікі Беларусь... прымаем гэтую Канстытуцыю" павінен быць палітычнай і дзяржаўнай рэальнасцю. Рэалізацыю закладзеных у Канстытуцыі магчымасцей, галоўная з якіх -- выкарыстанне палітычных механізмаў для будаўніцтва працавітаючай эканомікі і павышэння дабрабыту народа, пэўныя сілы, на жаль, спрабуюць выкарыстаць для дэстабілізацыі становішча і расхіствання дзяржаўных асноў. Толькі народ як адзіная крыніца дзяржаўнай улады можа меркаваць аб тым, наколькі палажэнні Канстытуцыі адпавядаюць існуючым рэаліям, цяжкасцям пераходнага перыяду. Толькі народ валодае прыярытэтным канстытуцыйным правам сваім волевыяўленнем вызначаць, што ў Асноўным Законе ўстарэла і павінна быць зменена, а што не.

Толькі ў тым выпадку, калі народ мае магчымасць самастойна вырашаць свой лёс, мы можам гаварыць, што дэмакратыя, абвешчаная нашай Канстытуцыяй, -- гэта сапраўдная сённяшняя рэальнасць", -- гаворыцца ў Звароце Прэзідэнта.

ЗАЯВА БНФ

## ПРА ІНІЦЫЯТЫВЫ Ў МАСКВЕ

Кіраўніцтва Сойму і Управы Беларускага народнага фронту выступіла з заявай у сувязі з падпісанымі Прэзідэнтамі Беларусі і Расіі дакументамі аб "нулявым варыянце" ўзаемазаліку даўгоў, далейшай інтэграцыі дзвюх дзяржаў. "Прэзідэнт Лукашэнка, гаворыцца ў заяве, зрабіў чарговы крок да ліквідацыі самастойнасці нашай краіны. 27 лютага гэтага года ў Маскве сумесна з Ельцыным ім падпісана заява аб плануемай так званай "інтэграцыі" Беларусі з Расіяй. Сутнасць гэтай "інтэграцыі", калі адкінуць дэмагагічную дымавую заслону, у тым, што ўсю эканамічную і фінансавую выгаду на Беларусі будзе атрымліваць Расія".

БНФ лічыць, што падпісанае пагадненне аб так званым "нулявым варыянце" нявыгадна Беларусі, так што даўгі Расіі ў дзесяткі разоў перавышаюць нашы даўгі. Адзін чарнобыльскі доўг, які Расія абавязана выплаціць пацярпеламу ад радыяцыі беларускаму народу, складае каля трыццаці мільярдаў долараў ЗША".

Аўтары заявы выказваюць спадзяванне, што Вярхоўны Савет "стане на абарону закона і жыццёва важных інтарэсаў незалежнай Беларусі".

ПРЫ ЖЫВЫХ БАЦЬКАХ



Больш прасторнае памяшканне дзіцячага сада вытворчага аб'яднання "Гомсельмаш" гарадскія ўлады Гомеля перадалі прытулку-размеркавальніку дзяцей-сірот, колькасць якіх, на жаль, расце, прычым нават пры жывых бацьках. Яны альбо пазбаўляюцца бацькоўскіх правоў, альбо проста асуджаюць сваіх дзяцей на бадзяжніцтва. Дзіцяці ж патрэбны не толькі кухня, спартыўная зала, мяккі ложак, якія прадаставіла дзяржава.

НА ЗДЫМКУ: не першы год працуе з дзецьмі інспектар Людміла КАМЕНЕВА.

ЗВАННЕ

## ШАРЭЦКІ — АКАДЭМІК

У выніку тайнага галасавання на прайшоўшым 6 сакавіка пасяджэнні Акадэміі аграрных навук Беларусі Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі абраны яе акадэмікам.

## МІТРАПАЛІТ ФІЛАРЭТ — ПРАФЕСАР

Атэстацыйная камісія Беларускага аддзялення Міжнароднай акадэміі інфармацыйных працэсаў і тэхналогій адзінадушна прысудзіла члену гэтай акадэміі Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту, Патрыяршаму Экзарху ўсяе Беларусі вучонае званне прафесара гуманітарных навук. Так высока ацэнены багаслоўская працы і педагагічная дзейнасць уладыкі Філарэта, яго грамадская дзейнасць і прававедніцкія працы.

ЭКСПАРТ-95

## ВЫЗНАЧАНЫ ЛЕПШЫЯ

Беларуская гандлёва-прамысловая палата падвяла вынікі конкурсу на званне "Лепшы экспарцёр года", які штогод праводзіцца сярод прадпрыемстваў -- членаў ГПП. Хрустальных кубкаў і памятных "жэзлаў Меркурыя" па выніках 1995 года ўдастоены завод імя Дзяржынскага навукова-вытворчага аб'яднання "Інтэграл" -- сярод прадпрыемстваў -- вытворцаў сродкаў вытворчасці, магілёўскае народнае прадпрыемства "Вяснянка" -- сярод прадпрыемстваў -- вытворцаў тавараў народнага спажывання і мінскі завод "Крыон" -- сярод прадпрыемстваў іншых галін прамысловасці.

Акрамя вызначэння пераможцаў у трох асноўных намінацыях, Беларуская гандлёва-прамысловая палата ўзнагародзіла дыпломамі Беларускі металургічны завод, Рэчыцкі метызны завод, акцыянернае таварыства па выпуску бытавых халадзільнікаў "Атлант", Мінскі механічны завод імя Вавілава, вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій" і гродзенскае вытворчае аб'яднанне "Азот" за актыўны ўдзел у развіцці экспарту.

ІНЦЫДЭНТ З ШАРАМ

## РАССЛЕДАВАННЕ ЗАВЯРШАЕЦЦА

Падыходзіць к канцу расследаванне абставін інцыдэнту, што адбыўся ў паветранай прасторы Рэспублікі Беларусь 12 верасня 1995 года. Як вядома, у гэты дзень над тэрыторыяй рэспублікі сродкамі проціпаветранай абароны беларускіх Узброеных Сіл быў збіты паветраны шар, які прымаў удзел у міжнародных спаборніцтвах па паветраплаванні. У выніку загінулі два члены экіпажа -- грамадзяне Злучаных Штатаў Амерыкі.

Як паведаміў БелаПАН старшыня дзяржаўнай камісіі па расследаванню прычын авіяцыйнага здарэння, якое выклікала знішчэнне лятальнага апарата і гібель пілотаў, кіраўнік адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, групы экспертаў, што працуюць у Беларусі, Расіі, Германіі і ЗША, вядуць цяпер апрацоўку дакументаў. М.Мясніковіч мяркуе, што ўжо к канцу сакавіка праца па расследаванню прычын авіяцыйнага здарэння будзе завершана. Пакуль жа, паводле яго слоў, пацвярджаецца, што ў момант атакі верталёта абодва пілоты знаходзіліся ў непрытомнасці, якая, магчыма, была выклікана кіслародным галаданнем у выніку рэзкага вынасу шара паветранымі патокамі на вялікую вышыню. Смерць амерыканскіх паветраплавальнікаў настала ад удару аб зямлю.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## ШТО ДОБРА, А ШТО НЕ

У мінулым годзе ў рэспубліцы спынена гіперінфляцыя і значна зніжаны тэмпы інфляцыі. У тры разы зніжаны тэмп росту цэн. Умацавана нацыянальная валюта і прадухілена даларызацыя эканомікі. Знойдзены новыя рынкі збыту. Цяпер беларуская прадукцыя пастаўляецца ў 97 краін далёкага замежжа, у тым ліку ў краіны Афрыкі, Лацінскай Амерыкі. Палепшаны гандлёвы і плацежны баланс.

У той жа час не пераадолены спад у вытворчасці. Фінансавая стабілізацыя яшчэ кволая, стан прадпрыемстваў няўстойлівы. Рэнтабельнасць гаспадаркі знізілася ў два разы і склала ўсяго 9,4 працэнта. У два разы павялічылася колькасць нерэнтабельных прадпрыемстваў. Сродкаў на патрэбы прадпрыемстваў не хапае, прагрэсіруе натуральная аплата працы. Растуць даўгі за газ. Скарочаны аб'ёмы капітальнага будаўніцтва. Малы прыток замежных інвестыцый. Расце беспрацоўе. Зарплата не забяспечвае ўзнаўлення рабочай сілы. Працягваецца зніжэнне жыццёвага ўзроўню людзей.

Так характарызаваўся стан народнай гаспадаркі рэспублікі на пасяджэнні Кабінета Міністраў пад старшынствам прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра.

МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ



Дом гандлю "Вольга" адкрыўся на праспекце Будаўнікоў у Віцебску. На плошчы 5 000 квадратных метраў размясціўся харчовы аддзел, аддзел прамысловых тавараў і крыты рынак.

Навінкай для віцяблян стаў распродаж у гандлёвым доме новых аўтамабіляў.

НА ЗДЫМКУ: у гандлёвай зале "Вольгі".

# "БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІ САЮЗ ПАВІНЕН ГРУНТАВАЦЦА НА БАЛАНСЕ ЎЗАЕМНЫХ ІНТАРЭСАЎ ДЗЯРЖАЎ І БЫЦЬ АСВЯЧОНЫ ВОЛЯЙ ІХ НАРОДАЎ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

На практыцы гэта будзе азначаць, што, калі, напрыклад, Беларусь не пагодзіцца з якім-небудзь рашэннем саюзнага ведамства, яно не будзе рэалізоўвацца.

Саюзныя ведамствы не абавязкова ствараць усе адразу, адначасова. Фарміраваць ці скасоўваць іх можна паступова, па меры неабходнасці.

Для трывалага саюза Беларусі і Расіі зусім не абавязкова мець агульны ці наддзяржаўны ўрад і адзіны парламент. Дарэчы, у існаванні адзінага вышэйшага заканадаўчага органа, сфарміраванага па прынцыпу адзін дэпутат ад пэўнай колькасці выбаршчыкаў, Беларусь, адназначна, не зацікаўлена. Бо ў гэтым выпадку колькасць расійскіх дэпутатаў будзе непараўнальна большая, чым беларускіх.

У сваю чаргу на стварэнне двухпалатнага з роўнымі правамі аб'яднанага парламента наўрад ці згодзіцца Расія.

Што датычыць урада, то сумняваюся ў мэтазгоднасці стварэння, напрыклад, агульнага Міністэрства культуры. Не трэба і аб'яднанага Міністэрства экономікі. Разам з тым, магчыма, мае сэнс мець аб'яднанае камандаванне Узброенымі Сіламі ці сумесную армейскую групоўку пад аб'яднаным камандаваннем. На мой погляд, трэба разам ахоўваць заходнія рубяжы Беларусі. Паколькі граніцы паміж Беларуссю і Расіяй не існуе, ва ўмацаванні рубяжоў Беларусі з Польшчай, Латвіяй і Літвой зацікаўлена Расія.

**-- Як вы лічыце, ці правільна зрабілі кіраўнікі абедзвюх дзяржаў, пачаўшы інтэграцыю з заключэння мытнага саюза, ход рэалізацыі якога, па ўзаемнаму прызнанню прэзідэнтаў, не задавальняе ні адзін з бакоў! Ці існуе небяспека дыскрэдытацыі самой ідэі аб'яднання Беларусі і Расіі на прыкладзе асобных няўдач у стварэнні адзінай мытнай прасторы!**

-- Не, не існуе. Пры распрацоўцы канцэпцыі мытнага саюза дэталёва не былі ўлічаны некаторыя асаблівасці як нашай рэспублікі, так і Расіі. Падпісанне дагавора аб стварэнні мытнага саюза з'явілася ў значнай ступені палітычным крокам, калі, бадай, упершыню за многія гады намеры кіраўнікоў не разышліся з канкрэтнымі дзеяннямі. "Прабуксоўкі" шэрагу палажэнняў мытнага саюза адбыліся ў многім з-за адсутнасці аператыўнай карэкціроўкі іх рэалізацыі. Абодва бакі ўзаемна парушылі дагавор, пры гэтым да апошняй сустрэчы ў вярхах практычна не абмяркоўваючы ўзнікаючых праблем на міждзяржаўным узроўні.

Але ўсё гэта зусім не азначае, што па гэтай прычыне трэба адмовіцца ад самой ідэі мытнага саюза. Наадварот, трэба дадатковымі пратаколамі і пагадненнямі адрэгуляваць механізм яго эфектыўнага функцыянавання. Наколькі мне вядома, і Беларусь, і Расія гатовы гэта зрабіць.

Неабходна ўлічыць вопыт першага этапа і ўжо пры выпрацоўцы схемы работы гандлёвага, плацежнага і іншых магчымых двухбаковых саюзаў прадугледжваць сістэму аператыўнага ўзгаднення дзеянняў. Выкананне карэкціруючых функцый можна ўскласці на наддзяржаўныя інстытуты, якія маглі б аналізаваць узнікаючую сітуацыю і ўносіць адпаведныя прапановы ва ўрады абедзвюх краін. Магчыма, па меры ўмацавання беларуска-расійскага саюза абодва бакі надзеляць наддзяржаўныя структуры пэўнымі ўладнымі паўнамоцтвамі для аператыўнага кіравання працэсамі ў рамках заключаных дагавароў у галіне эканомікі.

**-- Згодна з некаторымі прагнозамі, на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах у Расіі мае шанцы перамагчы кіраўнік кампартыі Г.Зюганаў. На ваш погляд, як можа адбіцца на ходзе інтэграцыйных працэсаў прыход да ўлады ў Расіі камуніста?**

-- Перамога камуністаў у Расіі даволі рэальная. Усё больш людзей давяраюць КПРФ. Гэта ў сваю чаргу дае дадатковыя шанцы Партыі камуністаў Беларусі дабіцца пэўных палітычных поспехаў.

Калі Г.Зюганаў і стане прэзідэнтам Расіі, то адразу адчувальных вынікаў у Беларусі, думаю, не адбудзецца. Кардынальна гэта не зменіць сітуацыю. Аднак зусім відавочна, што ў гэтым выпадку эканамічная і палітычная інтэграцыя Беларусі і Расіі набывае новую якасць.

У абедзвюх краінах левыя з'яўляюцца адзінымі сіламі, якія ў сваіх афіцыйных [illegible]тычных праграмах ставяць [illegible]дачу яднання Беларусі і Расіі на ўзаемавыгаднай аснове. Таму прыход да ўлады камуністычных сіл створыць спрыяльную аснову для паглыблення інтэграцыі.

Разам з тым не [illegible]аўляю магчымасці [illegible]звіцця інтэграцыйных працэсаў і пры наяўнасці розных па палітычных поглядах кіруючых рэжымаў. Але ў гэтым выпадку працэс будзе працякаць не так хутка.

Цяпер Беларусь і Расія разам рухаюцца па шляху рыначных пераўтварэнняў. Толькі з рознай хуткасцю. Ідучы на саюз з Расіяй, Беларусі прыйдзецца ў многім даганяць усходнюю суседку.

Перакананы, што шырокамаштабны палітычны саюз дзвюх краін магчымы толькі пры ўмове кіравання як у Беларусі, так і ў Расіі прыкладна аднолькавых па палітычнай арыентацыі сіл. Зрэшты, нават гэта не з'яўляецца гарантам стварэння ў сціслыя тэрміны магутнай беларуска-расійскай супольнасці. Для дасягнення гэтай мэты неабходна як мінімум фарміраванне спрыяльнага клімату ў заканадаўствах.

Законы Беларусі і Расіі маюць многа істотных адрозненняў. Таму уніфікацыя заканадаўства ў гэтым выпадку прадугледжвае або прыняцце адным з бакоў правілаў гульні другога боку, або абедзве дзяржавы павінны будуць выпрацаваць усярэднены варыянт саюзнага заканадаўства.

Уніфікацыя заканадаўстваў для стварэння моцнага саюза проста неабходна. Законы абавязкова павінны быць хоць бы падобнымі. Дарэчы, гэта пацвярджае і вопыт у галіне інтэграцыі дзяржаў Заходняй Еўропы.

**-- Не ўсе ініцыятывы прадстаўнікоў левых палітычных сіл знаходзяць падтрымку і ў парламенце Беларусі, дзе левыя маюць дзве магутныя фракцыі. Палітычныя погляды ПКБ і Аграрнай партыі вельмі падобныя. Гэта шматукладнасць эканомікі, сацыяльная справядлівасць і г.д. Ці магчыма аб'яднанне дзвюх партый у адну?**

-- Сапраўды, камуністы і аграрыі маюць падобныя пазіцыі па многіх пытаннях. Але існуе і нямала адрозненняў, якія ў апошні час становяцца ўсё больш відавочнымі. У прыватнасці, аграрная фракцыя ў парламенце схіляецца да ідэі ўвядзення прыватнай уласнасці на зямлю, чаго не адабраюць члены ПКБ. Не хацелася б пакрыўдзіць маіх сяброў-аграрыяў, але вопыт Расіі і Украіны паказаў бесперспектыўнасць аграрных партый. Любая партыя павінна базіравацца на якой-небудзь канкрэтнай ідэалогіі. У Аграрнай партыі ідэалогіі няма. Прыярытэт развіццю аграрнага сектара эканомікі не можа з'яўляцца ідэалогіяй. Аграрыі спрабуюць рэалізаваць ідэі сацыялістычнага грамадства з відавочнай перавагай інтарэсаў сялян. Але сяляне -- толькі частка грамадства! Не могуць быць рэалізаваны інтарэсы сялян асобна ад інтарэсаў рабочых.

Калі аграрыі хочуць мець сапраўдную партыю, то ў яе павінна быць якое-небудзь істотнае адрозненне ад камуністаў, сацыял-дэмакратаў і іншых партый, "іскрынка", якую яны будуць прапаноўваць на рынку ідэй.

Бытуе думка, што на прайшоўшых у Беларусі парламенцкіх выбарах перамаглі левыя. Гэта не так. Цяпер левыя сілы не пераважаюць у парламентах ні Расіі, ні Беларусі. Максімум 40 працэнтаў беларускіх дэпутатаў можна аднесці да прыхільнікаў левых -- аграрыяў і камуністаў. Але 40 працэнтаў мала для прыняцця Вярхоўным Саветам звычайнага рашэння і тым больш недастаткова, каб гэта рашэнне мела статус канстытуцыйнага закона. Прыкладна такая ж сітуацыя і ў Расіі, дзе ў Дзяржаўнай думе левымі лічацца толькі 45 працэнтаў дэпутацкага корпуса. Таму ні аб якой перамозе левых на выбарах у Беларусі і Расіі не можа быць і размовы. Можна толькі канстатаваць рост іх палітычнага ўплыву.

**-- Як вы лічыце, ці зменіцца з цягам часу палітычная расстаноўка сіл у Вярхоўным Савеце! Магчыма, што незалежныя дэпутаты, якіх даволі многа ў парламенце, далучацца да розных фракцый, у тым ліку і да левых!**

-- Наогул, больш-менш ясны расклад сіл у вышэйшым заканадаўчым органе краіны стане вядомы толькі к канцу года, калі будзе разгледжана некалькі прынцыповых пытанняў, якія датычаць лёсу Беларусі. Толькі тады рэальна вызначыцца палітычнае аблічча цяперашняга дэпутацкага корпуса.

Перакананы, што левыя сілы ў любым выпадку не страцяць магчымасці блакіраваць неканструктыўныя канстытуцыйныя ініцыятывы правых. Некаторыя змены ў колькасці фракцый адбудуцца, але не думаю, што значныя.

Упэўнены таксама, што ў цэлым Вярхоўны Савет будзе стаяць на варце Канстытуцыі і законнасці. Гэта цяпер аб'ядноўвае ўсе без выключэння палітычныя сілы ў парламенце. У гэтым -- сіла Вярхоўнага Савета, і яе ён не страціць.

ПЕРАСЯЛЕНЦЫ: ЧАС І ЛЁС

# ЯК СТВАРАЛІ "ЧЫРВОНЫ ШТАНДАР"

СКОНЧЫЛАСЯ сялянства ў Беластоку ў пачатку трыццатых гадоў у ходзе калектывізацыі па-сталінску, селяніна-аратага змянілі калгаснік і саўгаснік з зусім іншай псіхалогіяй і іншым стаўленнем да зямлі і працы. Калі і захоўвалася нешта спачатку ў калгасніках ад ранейшага сялянскага ў выглядзе апантанасці ў працы, ашчаднасці, гатоўнасці прыйсці на дапамогу ўсёй грамадой, то з часам паступова ўсё гэта знікала...

Як мы ведаем, "Вялікі пералом", гэта значыць пачатак масавай калектывізацыі, быў у краіне з канца 20-х --пачатку 30-х гадоў. У Беластоку ж калгас быў створаны толькі ў красавіку 1935 года. Пра тое, чаго каштавалі нашым землякам гэтыя пяць гадоў супраціўлення калектывізацыі, можна толькі здагадвацца. Чаго толькі не было ў арсенале ўздзеяння мясцовых органаў улады і актывістаў калгаснага руху супраць тых, хто супраціўляўся: пазбаўленне выбарчых правоў, цяжар падатковага прэса, распродаж маёмасці і раскулачванне, асуджэнне... Бадай, не было толькі высылкі сямей раскулачаных з вёскі далей -- у Васюганскія балоты. Але затое не адзін год назіралі сяльчане, як высылалі іншых: пачынаючы з трыццатага года па Нарымскаму тракту праз г[illegible]у даволі часта ішлі зімой н[illegible]ўнач Нарымскай акругі абозы раскулачаных. У самой вёсцы знаходзіла часовы прытулак [illegible] нямала адміністрацыйна ссыльных і раскулачаных.

Адны[illegible]словам, ведалі беластокцы [illegible]ікі супраціўлення калектывізацыі на вёсцы, але ведалі таксама і пра тое, як жывецца новаспечаным калгаснікам. Прыклад работы калгаса з суседняй вёскі Вазнясенкі, створанага тамашнімі актывістамі яшчэ ў 1930 годзе, гаварыў аб многім. Аднак варта заўважыць, што не ўсе так думалі і рабілі.

Акрамя праціўнікаў стварэння на вёсцы калгаса, былі і прыхільнікі калектывізацыі. Да іх ліку адносіліся мясцовыя актывісты з "сельскіх пралетарыяў", сельсавецкіх работнікаў і вясковай інтэлігенцыі ў асобе настаўнікаў і загадчыка хаты-чытальні. "Сельскія пралетарыі", гэта значыць тыя, хто не меў сваёй добрай гаспадаркі, атрымалі пры Савецкай уладзе пашану і вялікія правы распараджацца чужымі лёсамі і вучыць іншых, як трэба жыць. У складзе сельсавецкіх актывістаў значылася таксама некалькі так званых серадмякоў, якія лічылі за лепшае для сябе і сваіх сем'яў не канфліктаваць з уладамі, а плыць па цячэнні падзей, не супярэчыць "генеральнай лініі". Сутнасць сваёй пазіцыі адзін з іх у размове з суседам выказаў наступнай фразай: "Мая справа агітаваць за калгас, а ваша адмаўляцца..."

Як сведчаць архіўныя дакументы Беластоцкага сельсавета пачатку трыццатых гадоў, прыкладна ў такім духу і праходзіла некалькі гадоў у вёсцы агітацыя за калгас: прыязджаў які-небудзь райупаўнаважаны, збіраў сельскі сход і выступаў з палымянай прамовай, заклікаючы запісвацца ў калгас. За ім слова бралі мясцовыя актывісты і абяцалі аднавяскоўцам райскае жыццё, выказвалі гатоўнасць першымі ўступіць у калгас. Але як толькі начальнікі з вёскі ад'язджалі, чамусьці, здавалася б, вырашанае пытанне павісала ў паветры. Упершыню так адбылося пасля наведвання Беластока спецыяльна па пытанню калектывізацыі райупаўнаважанага Скокляннага 22 сакавіка 1930 года. Падтрымаў яго на вясковым сходзе старшыня сельсавета з мясцовых жыхароў Марцін Майсак, але жадаючых стаць тады калгаснікамі не знайшлося.

Падобнае адбылося і пасля сельскага сходу грамадзян 24 ліпеня 1931 года, на якім упаўнаважаны райвыканкома Вішнеўскі выступіў з тлумачэннямі аб перавазе калгаснай гаспадаркі перад аднаасобнай і "падрабязна ахарактарызаваў надзённы момант калектывізацыі на падставе ліквідацыі кулацтва як класа".

Пасля выступленняў актывістаў Майсака і Нікалаенкі новы старшыня сельсавета Драздоў закончыў сход словамі аб тым, што калектывізацыя -- гэта адзіны шлях выхаду з галечы і заклікаў беластокцаў запісвацца ў калгас. Шчаслівым калгаснікам ніхто стаць не пажадаў, і на гэты раз заклік застаўся безвыніковым. Не дабіліся ўлады правядзення калектывізацыі на вёсцы таксама і ў наступным 1932 годзе, безвыніковымі аказаліся трыццаць трэці і трыццаць чацвёрты гады... Адных старшыняў сельсавета за тое, што не справіліся з галоўнай задачай "данага моманту", замянялі іншымі, мянялі склад сельскіх Саветаў, але пытанне калектывізацыі на вёсцы па-ранейшаму не вырашалася. Мясцовыя актывісты тлумачылі гэта падкопамі класавага ворага, які, як выказаўся на адным са сходаў яшчэ ў 1932 годзе мясцовы настаўнік Хвалько, "усюды і паўсюль пралазіць і дзейнічае па ўсяму Беластоцкаму савету, але члены сельсавета ўдзяляюць гэтаму мала ўвагі, а трэба разбіць класавага ворага..."

У якасці класавага ворага вызначылі мясцовых жыхароў Адама Мазюка, Людвіга Карпыша, Вікенція Сянько, Міхаіла Бельскага і яшчэ шэраг аднавяскоўцаў толькі за тое, што адзін з іх меў старую воўначасалку, якая засталася ад бацькі ў спадчыну. Другі яшчэ ў 1914 годзе пабудаваў у сябе ў двары вятрак, што згарэў яшчэ ў дваццаць трэцім годзе. Трэці ў перыяд НЭПа меў на вёсцы бакалейную краму. Гаспадаркі ўсіх аб'явілі кулацкімі і канфіскавалі, а саміх пазбавілі выбарчых правоў. Мазюка і Сянько яшчэ і асудзілі ў 1932 на два гады турмы. Адным словам, усё было зроблена, каб знішчыць перашкоды для паспяховай калектывізацыі, але і на гэты раз калгаса на вёсцы "не збудавалі".

2 ліпеня 1934 года ў ЦК ВКП(б) адбылася чарговая нарада па пытаннях калектывізацыі, на якой выступіў з прамовай Іосіф Сталін. Там ён аб'явіў аб пачатку новага, завяршальнага этапу калектывізацыі ў краіне. Праз некалькі месяцаў грозныя дырэктывы ЦК аб завяршэнні кампаніі надзённага моманту даляцелі і да сібірскай глыбінкі. Каб у тэрмін выканаць дырэктывы па калектывізацыі, савецкія органы ўлады Крывашэінскага раёна Заходне-Сібірскага краю, як відаць па ўсім, не маглі абысціся без такога незаменнага ў іх рабоце ведамства, як НКУС.

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

*ДА 75-годдзя "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"*



# БУДЗІЦЕЛІ Ў ЛАТВІІ

25 сакавіка 1921 года ў Даўгаўпілсе было ўтворана беларускае культурна-прасветнае таварыства "Бацькаўшчына". У цэнтральнае праўленне яго ўваходзілі Я. Харлап, К. Езавітаў, Э. Будзька, Я. Краскоўскі, П. Мядзёлка... Дзякуючы намаганням І. Дварчаніна, М. Гарэцкага, У. Пігулеўскага, С. Сахарава, А. Якубецкага, падтрымцы Я. Райніса, беларуская супольнасць у Латвіі стала адной з найбольш арганізаваных за межамі тагачаснай Беларусі.



"Бацькаўшчына" дамаглася адкрыцця Беларускага аддзела пры Міністэрстве асветы, што дазволіла арганізаваць курсы беларусазнаўства (настаўніцкія курсы), адкрыць каля 50 пачатковых школак, а пазней і дзвюх гімназій. З тэатральных дружынаў узніклі трупы двух тэатраў. Ад шапіраграфных штомесячнікаў "Ластаўка", "Школьная праца" перайшлі да добра наладжанай прэсы ("Голас Беларуса", "Беларуская школа ў Латвіі"). Была наладжана кнігавыдавецкая справа.

Абуджэнне нацыянальнай свядомасці карэннага беларускага жыхарства Латвіі ішло поруч з выяўленнем талентаў, далучэннем да актыўнай творчай працы Пятра Сакала (Масальскага), Эдварда Вайвадзіша, Валянціны Казлоўскай, Віктара Вальтара, Пятра Міранoвіча, Міхася Калініна, Аркадзя Салаўёва, Язэпа Камаржынскага, Веры Вайцюлевіч, Міколы Т...ркі...

Праз 75 гадоў ку... ...на-асветную справу будзіцеляў "Бацькаўшчыны" прадаўжаюць латвійскія беларусы з суполак "Світанак", "Прамень", "Уздым", таварыства дружбы "Латвія -- Беларусь".

25 сакавіка 1921 г... - дата, вартая нашай удзячн... згадкі і ўшанавання адраджэнскай справы. Адгукніцеся, хто ведае пра падзеі 75-гадовай даўнасці. Налета -- яшчэ адзін юбілей -- 75-годдзе Даўгаўпілскай беларускай дзяржаўнай гімназіі. Просьба да яе выпускнікоў -- адгукніцеся! Вопыт і набытак папярэднікаў -- скарб для нашай лучнасці і натхнёнай дзеі.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня рады таварыства "Беларусь -- Латвія".**

**БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У ЛАТВІІ**

№ 7 (17). Рыга, ... 1932 году. Год VII.

**Віктар Бэнэдыктавіч Вальтар.**

**НА ЗДЫМКАХ: Даўгаўпілс пачатку XX стагоддзя (паштоўка); старонка часопіса "Беларуская школа ў Латвіі"; Аляксей БАРТКЕВІЧ, беларускі настаўнік з Даўгаўпілса (фота з архіва аўтара).**

# УСЯКІ НАРМАЛЬНЫ ЧАЛАВЕК — НАЦЫЯНАЛІСТ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Мне падаецца, што ўсякі нармальны чалавек -- нацыяналіст. У лепшым сэнсе гэтага слова, бо ён ганарыцца прыналежнасцю да той ці іншай нацыі. Так і гэтыя людзі -- яны помняць сваю мову, гісторыю, культуру, разумеюць, што зусім не абавязкова з некім аб'ядноўвацца, каб пабудаваць годнае жыццё, бо яны ведаюць: калі не зробіш гэта сам, за цябе не зробіць ніхто. Часам вельмі цяжка тут, дома, адчуць сябе патрыётам, бо паняцце "бацькаўшчына" складаецца не толькі з геаграфічных адзнак, а залежыць яшчэ і ад грамадства, у якім мы жывем. Наўрад ці сапраўднае беларускае грамадства прагаласавала б на рэферэндуме за фактычнае знішчэнне беларускай мовы і за ліквідацыю нацыянальнай сімволікі...

У Аўстраліі мы сустракаліся з многімі беларусамі, у прыватнасці, з Алегам Шнэкам. Закранулі і тэму абвінавачванняў яго і брата яго ў тым, што ён быў у часы гітлераўскай акупацыі паліцаем. Гэта немагчыма хаця б таму, што калі скончылася вайна, Алегу было ўсяго чатырнаццаць гадоў.

Тр...а сказаць, што Аўс...я -- краіна незвычайная і накладвае адбітак на людзей, якія там доўга жывуць. Адна з характэрных рысаў гэтай краіны -- фантастычная дружалюбнасць у адносі... да эмігрантаў, і наогул ...шаземцаў. Я нідзе не сустракаў нічога падобнага. Там, за мяжою, мне давялося ўпершыню адчуць сябе, як дома. Аўстралія -- сама па сабе краіна эмігрантаў, і таму там і сфарміравалася такое шчырае стаўленне да прыезджых. Нас надзвычай сардэчна прымалі ўсе два тыдні, пакуль мы там былі. З землякамі мы сустракаліся ў Сіднеі ў сацыяльна-культурным цэнтры беларусаў. Там для нас наладзілі сапраўдную беларускую вячэру з бульбай, каўбасой, марынаванымі агуркамі, прычым, усё гэта яны робяць самі. Адзіным небеларускім прадуктам на стале, здаецца, было віскі. А перад гэтым мы наведалі Міхася Лужынскага, кіраўніка сіднейскіх беларусаў. У Мельбурне мы таксама былі на абедзе дома ў Аўгена Грушы, пасля гэтага наведалі беларускія могілкі і культурны цэнтр. Для нас было дзіўна даведацца, што людзі сабралі грошы і пабудавалі дом, які належыць ім усім. Яшчэ нам давялося пабываць на Каляднай службе ў беларускай царкве ў Мельбурне, дзе набажэнства вядзецца на беларускай мове. У нас было шмат цікавых сустрэч, якія запомніліся надоўга. Мне нават не хацелася б нешта выдзяляць, каб не пакрыўдзіць некага з тых, хто нас прымаў, бо выдатную атмасферу стварылі ўсе разам.

Спадабалася, што ў Аўстраліі і дзяржава вельмі падтрымлівае дыяспару, клапоціцца, каб кожны захаваў сваю культуру, гістарычную памяць. На аўстралійскім дзяржаўным радыё штотыднёва выходзіць праграма на беларускай мове, якая поўнасцю фінансуецца дзяржавай. А ў Перце таксама ёсць беларуская праграма, але ўжо на прыватнай радыёстанцыі, і за тое, каб яна выходзіла ў эфір, дыяспара плаціць грошы. Ім так трэба, і шкада, што ў Беларусі гэтага не разумеюць.

Мы ўжо атрымалі лісты ад нашых сяброў з Аўстраліі, а паездка запомніцца на ўсё жыццё.

**Запісала**
**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

З ВІЛЕНШЧЫНЫ

# МЫ ТВАЕ ДЗЕЦІ, БЕЛАРУСЬ

17 лютага ў Вільні праходзіла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Рады ТБК (Таварыства беларускай культуры) у Літве. У невялікай зале ТБК на вуліцы Жыгімонту, 12, сабралася значная колькасць беларусаў, якія так ці інакш заўсёды прымаюць удзел у розных імпрэзах, выставах -- наогул у грамадскім жыцці. На гэты раз яны прыйшлі сюды, каб пачуць аб зробленай за апошні час працы і аб тым, што плануецца на будучыню. Справаздачу трымаў Хведар Нюнька: у змястоўным дакладзе гаварыў пра тое, што было зроблена.

А зроблена нямала: праведзены з'езд беларусаў Балтыі, размешчаны ў Вільні мемарыяльныя дошкі, прысвечаныя К.Каліноўскаму, Я.Купалу, Б.Тарашкевічу, В.Ластоўскаму і іншым выдатным гістарычным постацям, пастаўлены помнік Паўлу Карузу, помнік-крыж Зоі Каўшанцы, былі розныя сустрэчы -- з пісьменнікамі Н.Гілевічам, В.Быкавым, паэтам С.Панізьнікам, грамадскімі дзеячамі, гісторыкамі. Усё гэта добра, але можна было зрабіць болей. Асабліва ў пашырэнні беларускага школьніцтва ў Літве, бо апрача Віленскай беларускай школы быў адкрыты толькі адзін беларускі клас у Вісагінасе, і гэта пры тым, што ў Літве жыве болей за 60 тысяч беларусаў.

Адна з прычын усяго негатыўнага ў нашых выніках -- гэта вельмі нізкая актыўнасць беларусаў Віленшчыны і Літвы, іх нейкая абыякавасць, і ў гэтым ёсць крыху віны ТБК, бо мала мы прапагандуем гісторыю нашага народа, гісторыю нашай бацькаўшчыны, карані беларускасці, людзі мала ведаюць сваіх слаўных папярэднікаў, асветнікаў. Па-другое, ТБК у Літве, як і іншыя суполкі, працуе ў вельмі цяжкі час: мы не маем амаль ніякай падтрымкі -- ні маральнай, ні матэрыяльнай ад Беларусі, не бачым зацікаўленасці і з літоўскага боку, а цяпер і з боку амбасады. І ў той жа час бачым, як апякуюцца іншыя дзяржавы сваімі людзьмі. Так, Літва робіць вельмі многа для літоўцаў Польшчы, у Беларусі будуе вялікі культурны цэнтр у Рымдзюнах, пасылае сваіх настаўнікаў, навукоўцаў, літаратараў у іншыя краіны, адкрывае школы. Караімы і татары маюць падтрымку ад Турцыі і іншых дзяржаў, палякі Літвы атрымалі цудоўны будынак школы імя Яна Паўла II з дапамогай Польшчы. Мы ж, 60-тысячная.грамада, пакінуты сам-насам.

Ажыццяўленне вялікай ідэі адраджэння беларускасці, культуры, сваёй свядомасці залежыць ад нас -- і толькі. Выступаючыя на гэтай канферэнцыі гаварылі пра тое, што зроблена і што трэба зрабіць, дзякавалі "Бацькаўшчыне", якая прыхільна ставіцца да нашых намаганняў, тым дзеячам, якія прыязджалі да нас.

Але цяпер трэба думаць нам і аб нашай змене -- школе (адзіная беларуская школа ў свеце за межамі бацькаўшчыны), як яе падтрымаць, як зрабіць, каб яна шырылася і мацнела. І тут патрэбны намаганні розных арганізацый, людзей і асабліва бацькаўшчыны, на якой зараз ідзе наступ на беларускасць.

Рада выказала надзею, што беларусы Віленшчыны перажывуць гэты час і ТБК будзе рабіць усё магчымае для адраджэння беларускай культуры, беларускасці, можа з'явяцца якія спонсары, каб дапамагчы і школе, і ТБК выдаваць сваю беларускую газету (у ёй ёсць вялікая патрэба), выдаць кнігі ўспамінаў вядомых беларусаў Віленшчыны і пра беларусаў Віленшчыны, даведнікі, дабіцца трансляцыі некаторых радыёперадач і каб на тэлебачанні гучала не 10 хвілін у тыдзень беларуская мова, а значна болей і часцей, дапамагчы абсталяваць памяшканне ТБК і мэбляй, і тэлевізарам, і відэакасетамі і, галоўнае, -- мець добрую бібліятэку, у якой была б літаратура замежных беларусаў, пра якіх мы мала ведаем і мала чыталі, асабліва маладое пакаленне.

Усё гэта можна вырашыць станоўча, калі мы будзем больш актыўнымі і згуртаванымі, а наша Радзіма будзе паважаць нас як сваіх родных дзетак.

**Павел САЎЧАНКА,**
**сябра ТБК.**



**Першы год пры Кобрынскім прафтэхвучылішчы N 105 народных мастацкіх промыслаў дзейнічае філіял Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта, дзе рыхтуюць кадры па спецыяльнасці "Выяўленчае мастацтва, чарчэнне і народныя мастацкія промыслы". Пакуль на першым курсе займаецца ўсяго 25 чалавек, але ў бліжэйшыя гады тут плануецца адкрыць факультэт.**

**НА ЗДЫМКУ: будынак, дзе размяшчаецца філіял.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# ЯК СТВАРАЛІ "ЧЫРВОНЫ ШТАНДАР"

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

Ва ўсякім выпадку, далейшыя падзеі ў Беластоку, звязаныя са стварэннем калгаса, праходзілі з непасрэдным удзелам карных органаў і па іх сцэнарыі.

Сцэнарый жа быў да прымітывізму просты і як свет стары: арыштаваць жыхароў вёскі, якія найбольш супраціўляюцца калектывізацыі, і наладзіць вялікі паказальны працэс для застрашвання астатніх.

У студзені 1935 года работнікамі Крывашэінскага райаддзела НКУС з дапамогай сельсавецкіх работнікаў быў сабраны неабходны кампрамат на шэраг жыхароў вёскі. У самым пачатку лютага 1935 года начальнік Нарымскага акруговага аддзела НКУС Мартон зацвердзіў пастанову аб арышце і прыцягненні да суда сямнаццаці жыхароў Беластока і суседніх Нова-Андрэеўскіх хутароў за тое, што ўсе яны нібыта праводзілі антысавецкую і антыкалгасную агітацыю, дабіліся развалу ініцыятыўнай групы па арганізацыі на вёсцы калгаса, а таксама на глебе класавай нянавісці мелі дамоўленасць забіць старшыню сельсавета і некаторых іншых актывістаў вёскі.

1--3 лютага 1935 года пяць чалавек з сямнаццаці былі арыштаваны і адпраўлены ў раённы аддзел НКУС. З астатніх узялі падпіску аб нявыездзе за межы вёскі да рашэння суда.

На думку амаль усіх актывістаў, галоўнымі праціўнікамі мерапрыемстваў партыі і ўрада на вёсцы былі раней раскулачаныя жыхары вёскі Бельскі, Карпыш і Мазюк, які незадоўга да гэтага вярнуўся ў вёску з месцаў зняволення. Так, старшыня інтэгральнага таварыства Сцяпан Патурамскі паказаў, што яшчэ вясной 1934 года Мазюк і Карпыш "наладжвалі засаду з мэтай забіць яго за пакупку іх маёмасці пры акулачванні..." Альфонс Шпарковіч даў паказанні, што вясной 1933 года быў збіты ў доме Станіслава Кандрацкага польскім перабежчыкам Напалеонам Сургела, які пры збіванні нібыта выкрыкваў: "Вось табе калгас!", потым яго пабіў кулак Адам Мазюк, а 26 жніўня трыццаць чацвёртага года яго нібыта "спрабавалі забіць кулакі Карпыш з Мазюком і падкулачнікам Кандрацкім Станіславам..."

У пратаколе паказанняў сведкі Іпаліта Кісяля ўказана, што некалі з ім гутарыў Пётр Люты і пераконваў яго ў нежыццяздольнасці калгасаў, а пачуўшы аб забойстве сакратара ЦК ВКП(б) Кірава, заявіў: "...Не трэба гараваць, аднаго забілі, горш ад гэтага нам не будзе..." На малодшага брата Пятра Лютага – Івана былі атрыманы паказанні аб тым, што ён распаўсюджваў сярод мясцовага насельніцтва антыкалгасныя заклікі, прачытаўшы іх у пісьме, атрыманым мясцовай жыхаркай Франяй Іоч ад ксяндза.

Так званыя паказанні сведкаў актывістаў Адольфа Бяляўскага, Восіпа Назарука, Антона Пілатава, Антона Кісяля, Васіля Дашука, Пятра Чэрвонага, Паўла Верашчагіна, сельсавецкіх работнікаў Міхаіла Коршунава, Івана Сергуна, Івана Таткіна зусім не адрозніваліся ад вышэйпамянёных паказанняў, хіба што дапаўнялі іх новымі падрабязнасцямі падкопаў "класава-чужых" сіл на вёсцы. Іх намаганнямі да ліку гэтых самых "сіл", акрамя ўжо памянёных сяльчан, былі прылічаны таксама браты Міхня -- Вікенцій, Антон і Фелікс; Эдуард Іоч, Трафім Папоў, Мацвей Пілевіч, Павел Мазюк і Браніслаў Пронскі.

Акрамя самога Пронскага намеснік старшыні сельсавета Іван Сяргун хацеў здаць у НКУС і яго жонку Ганну, дачку Лідзію і сына Паўла толькі за тое, што пры спробе арышту Браніслава 17 лютага 1935 года яны аказалі супраціўленне членам сельсавета, напаўшы на іх з лапатай і драўлянай выбівачкай. Пасля чаго і быў складзены ў райНКУС данос-просьба прыняць у адносінах да сям'і Пронскага самыя рашучыя меры, "не дапусціць, каб астатнія масы трымаліся гэтага заразлівага прыкладу"... Тут жа выказвалася просьба прыцягнуць да суровай адказнасці і "перавыхаваць адміністрацыйна" сельвыканаўцу Станіслава Лютага, які даў магчымасць Пронскаму ўцячы з дому ў лес і тым самым пазбегнуць арышту.

Справу Фелікса Міхні вылучылі ў асобае выкананне, "якая вельмі падобна на шпіянаж": прызнаўся, што ў 1931 годзе па даручэнні свайго бацькі Венядзікта і братоў ездзіў у польскае консульства ў Маскву для атрымання дазволу на выезд у Польшчу. Але і да яго "органы" дабраліся праз два гады ў 37-м, а пакуль трэба было расправіцца з сабатажам у справе калектывізацыі.

Абвінаваўчае заключэнне, складзенае на восем чалавек акруговым пракурорам Старыкавым, было зацверджана, і дадзена "добро" на правядзенне паказальнага судзілішча над праціўнікамі калектывізацыі на вёсцы ў мэтах застрашэння ўсіх астатніх.

5 красавіка 1935 года выязная сесія акруговага суда "імем РСФСР" прыгаварыла Адама Мазюка, Людвіга Карпыша і Міхаіла Бельскага да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў, братоў Пятра і Івана Лютых -- да 8 і 3 гадоў ППЛ, Станіслава Кандрацкага, Восіпа Качына і Напалеона С[illegible]алу -- да 6, 5 і 4 гадоў работ у [illegible]АГу... Толькі траім з васьмярых удалося выйсці на волю і потым памерці дома сваёй смерцю.

Бельскага вызвалілі датэрмінова праз восем гадоў "па стану здароўя", гэта знач[illegible] без усякага здароўя. Мазюк [illegible]зліўся ў 1946 годзе, поўнасцю адбыўшы атрыманую дзесятку. Кандрацкі замест шасці гадоў адседзеў дванаццаць і быў вызвалены толькі ў лютым 1947 года. Выйшаў з лагера "спецперавыхавання" ў трыццаць сёмым годзе і Люты Іван, які атрымаў самы маленькі тэрмін з усіх сваіх "однодельцев" – тры гады лагераў, але ў канцы кастрычніка 1937 года зноў быў арыштаваны і 8 студзеня 1938 года расстраляны. Яго старэйшы брат Пётр памёр 19 красавіка 1942 года ў Паўночнаўральскім лагеры НКУС. Па рашэнню тройкі УНКУС Дальбуду ў Калымскіх лагерах 5 студзеня 1938 года расстралялі Людвіга Карпыша. Навечна засталіся ў магаданскай зямлі Восіп Качан і Напалеон Сургела. Такой аказалася плата беластокцаў за ажыццяўленне праграмы партыі аб калектывізацыі ў маштабе ўсёй краіны...

А што ж з калгасам? Арганізавалі актывісты на гэты раз калгас, адразу пасля паказальнага працэсу. Назвалі яго "Чырвоны штандар", што ў перакладзе з польскай мовы значыць "Чырвоны сцяг".

Да сённяшніх дзён існуе ў Беластоку калгас, праўда, пад іншай назвай і са статусам "сельгаспрадпрыемства". Новыя павевы фермерызацыі пакуль не дакаціліся да тых краёў: наадрэз адмаўляюцца нашы землякі выходзіць з калгаса, г.зн. з сельгаспрадпрыемства і браць адабраную ў трыццатыя гады зямлю, не хочуць зноў стаць, як іх дзяды, аднаасобнікамі, гэта значыць фермерамі па-сучаснаму. Відаць, адны з іх у справе фермерызацыі ўсёй краіны чакаюць указанняў і канкрэтнай дапамогі ў гэтай справе ўжо, не ведаю, якіх "органаў", а нехта не бярэ зямлю з апасення быць зноў потым раскулачаным... Вось такая дыялектыка нашага жыцця.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**дацэнт.**

# ТАДЭВУШ ГАРЭЦКІ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Тадэвуш Гарэцкі нарадзіўся 5 траўня 1825 года ў Дзісянятах каля Вільні. Маткай мастака была Вераніка з Эйдзітовічаў, жанчына адукаваная, вельмі прывабная і спакойная. Гарэцкія часта бывалі ў сваім маёнтку на Лідчыне, які дастаўся Антонію пасля раптоўнай смерці старэйшага брата. Але неўзабаве жыццё сям'і аказалася разбураным: грымнула навальніца 1830 года. Антоній Гарэцкі адным з першых у Вільні пайшоў у шэрагі паўстанцаў, ваяваў, а пасля паражэння паўстання эмігрыраваў за мяжу -- у Парыж. Паколькі ён адмовіўся ад амністыі, ды і, зрэшты, у поўнай меры гэтая амністыя не магла б вычарпаць віну Гарэцкага (ён быў у кіраўніцтве паўстання), уся маёмасць паэта падлягала згодна з царскім загадам канфіскацыі. Такім чынам, у 1832 годзе Вераніка Гарэцкая засталася без сродкаў да існавання з двума сынамі на руках. На працягу некалькіх год жанчына змагалася за свае правы хаця б на Біскупцы, сяляне якіх нават і пасля канфіскацыі не хацелі слухаць іншых уладальнікаў, а ішлі са сваімі праблемамі да Гарэцкай. Вераніка нават пісала да Мураўёва, які ў той час быў на пасадзе гродзенскага губернатара. Але ўсе намаганні былі марнымі. Як сведчаць дакументы, у 1840 годзе Гарэцкія мелі двух прыгонных і невялікі кавалак зямлі, дадзены Вераніцы Гарэцкай у пажыццёвае карыстанне.

Пазбавіўшыся маёнткаў, Вераніка Гарэцкая вымушана была неяк забяспечыць лёс сыноў. Старэйшаму Людвігу была наканавана вайсковая кар'ера. Жыццё сваё ён скончыў капітанам у час Крымскай кампаніі, не пакінуўшы дзяцей, затое -- адны даўгі. Дарэчы, Тадэвуш вельмі кахаў свайго старэйшага брата. У гонар яго ён назваў свайго сына, а ў 1847 годзе зрабіў выдатны партрэт Людвіга.

Тадэвуш ужо ў раннім дзяцінстве паказваў выдатныя мастацкія здольнасці. Верагодна, што самыя першыя ўрокі жывапісу ён атрымаў у свайго стрыечнага брата Валенція Ваньковіча. Магчыма, бываў малады Гарэцкі і ў мастацкім салоне Дмахоўскага, які гэты выдатны мастак і скульп[illegible]дкрыў у Вільні пасля вяртання з эміг[illegible]ы. Лёс малодшага сына вельмі клапаціў Вераніку Гарэцкую. Жанчына рашаецца на крок, які нельга было б чакаць ад жонкі паўстанца: яна звяртаецца да шэфа жандараў -- кіраўніка III аддзялення А.Х.Бенкендорфа, просячы яго паспрыяць уладкав[illegible]о Тадэвуша ў Пецярбургскую акадэмі[illegible]астацтваў. Бенкендорф выкарыстаў учынак даведзенай да адчаю кабеты ў прапагандысцкіх мэтах. "Маці, якая аддае ў рукі ўрада свайго сына, -- піша ён у лісце да Мікалая I, – заслугоўвае ўсялякай павагі". Урад вельмі жадаў прыцягнуць на свой бок хаця б частку апазіцыйнай шляхты і ўвесь час даказваў, што не будзе помсціць дзецям за бацькоў, калі яны праявяць лаяльнасць да рэжыму. Мікалай I загадаў прыняць Тадэвуша ў акадэмію, прызначыўшы яму 350 рублёў стыпендыі ў год (удвая больш, чым стыпендыя студэнта універсітэта). Але янычара з Гарэцкага не выгадавалі. Лёс яго больш падобны на лёс Конрада Валенрода.

У 1840 годзе Тадэвуш Гарэцкі стаў студэнтам Акадэміі мастацтваў. Настаўнікам маладога мастака быў геніяльны Карл Брулоў. У хуткім часе таленавіты ліцьвін стаў любімым вучнем Брулова. Ён давяраў Гарэцкаму заканчваць некаторыя свае работы, прыцягнуў маладога мастака да работы ў Ісакіеўскім саборы, дзе ў той час працавалі найлепшыя майстры імперыі. Поспехі Тадэвуша Гарэцкага ў жывапісе з першых год навучання вылучылі яго на пачэснае месца сярод вучняў акадэміі. У 1844 годзе некалькі яго работ, як узорныя, былі закуплены для Маскоўскай школы жывапісу і дойлідства, а ў 1845 годзе за карціну "Споведзь маладой дзяўчыны ў каталіцкага святара" Гарэцкі атрымаў залаты медаль "За экспрэсію". З 1825 года гэты медаль, акрамя Тадэвуша, атрымалі толькі тры чалавекі.

Як жыў мастак у Пецярбургу? Нягледзячы на стыпендыю, прызначаную царом, грошай усё роўна не хапала. Дорага каштавала кватэра, на вопратку, матэрыялы для вучобы таксама выдаткоўвалася ўдвая больш, чым студэнцкая стыпендыя. Гарэцкі, як і іншыя мастакі, вымушаны быў працаваць на заказ, выконваючы іншы раз і нецікавую для сябе работу. У той час на мастакоў у Расіі, як і наогул людзей мастацкіх прафесій, глядзелі як на людзей другога гатунку. Мала хто з іх паходзіў з дваранства. На Беларусі ж, дзе да мастацтва ставіліся з большай павагай і дзе колькасць малаžмаёмаснай шляхты была значна большай, чым у Расіі, менавіта прадстаўнікі вышэйшага саслоўя, якія не мелі іншых сродкаў для існавання, выбіралі для сябе прафесію мастака, скульптара, доктара або настаўніка. Двоісты статус Гарэцкага (чалавек, які жыве за кошт сваёй працы, і радавіты дваранін) часам ставіў яго ў складаныя сітуацыі. Характэрны выпадак здарыўся з нашым земляком у 1844 годзе, многа крыві ён папсаваў тады Гарэцкаму. Капітан лейб-гвардыі Літоўскага палка Малахоўскі для свайго палка заказаў Гарэцкаму два партрэты членаў імператарскага дома. Гэты заказ Тадэвуш перадаў свайму прыяцелю па акадэміі і земляку Станкевічу, а той паставіўся да працы несумленна. Малахоўскі прадстаўленыя работы не прыняў і запатрабаваў назад задатак. У лісце, адрасаваным Гарэцкаму, капітан паставіўся да мастака як да чалавека простага стану, не маючага ні гонару, ні таленту, чым зняважыў яго і як шляхціца, і як майстра. Гарэцкі адказаў такой самай знявагай. Малахоўскі падаў скаргу прэзідэнту Акадэміі мастацтваў. Адказ Гарэцкага на запыт прэзідэнта вельмі добра малюе характар мастака і яго павагу да сваёй працы. У лісце канферэнц-сакратару ён піша: "Вы сами, Василий Иванович, судить можете, моя ли это кисть?" І далей: "Удивляюсь притязаниям г.Малаховского на вежливый ответ, верно, он считает художника простым ремесленником, которого все чувства мертвы и обругать его ничего не значит...". Нягледзячы на невінаватасць Гарэцкага, ён быў пакараны 3-дзённым арыштам. Але па распараджэнню прэзідэнта акадэміі яму было дазволена займацца ў час арышту маляваннем, працягваючы заняткі пад наглядам Брулова. Партрэты, нядбайна намаляваныя Станкевічам, Тадэвушу прыйшлося выправіць і адаслаць у полк.

Пасля атрымання некалькіх медалёў на конкурсах у 1849 годзе Гарэцкаму было прысвоена званне мастака 14-га класа, што ў той час давала права свабоднага пражывання ў любым месцы імперыі. Гарэцкі, дарэчы, не ўпусціў скарыстаць гэта. Лета і восень 1849 года ён правёў у свайго знаёмага Івана Младзяноўскага ў маёнтку Дукштыгай на Віцебшчыне, адкуль выязджаў у навакольныя мясціны для эцюдаў. "Заработался я на провинции и не могу возвратиться в Петербург на обещанный срок, -- пісаў мастак канферэнц-сакратару акадэміі 26 верасня 1849 года. -- Работы достал порядочно -- и едва ли еще через три месяца успею кончить".

Работы Гарэцкага, перш за ўсё партрэты, былі ўжо шырока вядомы ў мастацкім асяроддзі. У дакументах Акадэміі мастацтваў утрымліваецца пералік найбольш значных твораў, зробленых у гэты час. Яны цікавыя для нас не толькі як падзеі мастацтва, але і таму, што даюць уяўленне аб знаёмствах мастака. Гэта партрэты "натуральной величины" палкоўніка Гячэвіча, віцэ-дырэктара Ваеннай акадэміі Генеральнага штаба генерал-маёра Стэфані, епіскапа Жытомірска-Луцкай епархіі Жылінскага, мітрапаліта рымска-каталіцкіх касцёлаў у імперыі Дмахоўскага, графа і графіні Шадурскіх і іншых.

У 1850 годзе Гарэцкі падаў у Акадэмію мастацтваў прашэнне аб вызначэнні яму іспытаў на званне акадэміка партрэтнага жывапісу. У якасці праграмнай работы ён выбраў партрэт акадэміка Клота, знакамітага скульптара, які быў згодны выканаць ролю мадэлі. Партрэт гэты сёння знаходзіцца ў Траццякоўскай галерэі. Конкурс, як бачым, закончыўся паспяхова.

Званне акадэміка давала права на замежную вандроўку. Для Гарэцкага гэта быў шанц не толькі ўдасканаліць сваё майстэрства за мяжой, але таксама нарэшце сустрэцца з бацькам, якога ён не бачыў дваццаць доўгіх гадоў. Мікалай I, які не губляў з поля зроку свайго колішняга "пратэжэ", і тут вырашыў прыкласці сваю "монаршую десницу". На падарожжа ў Галандыю і Італію, куды заўсёды планавалася адпраўляць расійскіх мастакоў, дваццаціпяцігадоваму акадэміку выдзялялася 350 рублёў серабром у год. Акрамя таго, згодна з асабістым загадам цара, Гарэцкі, як узнагароджаны некалькімі медалямі Акадэміі мастацтваў, вызваляўся ад мытнага збору і аплаты замежнага пашпарта, што магло б паглынуць амаль палову прызначаных на падарожжа грошай. Два гады, якія мастак павінен быў правесці за мяжой, ён абавязваўся дасылаць падрабязныя справаздачы аб сваёй рабоце.

Але Гарэцкі не паехаў у Італію. Яго тэмперамент, асобая мастацкая манера павінны былі прывесці Тадэвуша ў іншую мастацкую сталіцу. У верасні 1850 года Гарэцкі прыехаў у Вільню, горад, дзе прайшло яго дзяцінства, потым --Варшава, Берлін, Парыж (пэўна, сустрэча з бацькам) і нарэшце доўгачаканы Мадрыд. Калекцыя музея Дэль Прада захапіла маладога мастака. Месяцамі ён працаваў у залах, робячы копіі з карцін Себасцьяна П'емба і Хазепе Рыберы.

**Святлана СЯЛЬВЕРСТАВА.**

(Заканчэнне будзе).

## ВЫСТАВЫ



Незвычайная выстава прайшла ў Заслаўі. Яна прысвячалася гісторыі гэтага старажытнага горада Беларусі. Адлюстраваў яе ў сваіх работах вядомы мастак Віктар Маркавец. Для ажыццяўлення задумы ён выбраў распаўсюджаную ў беларускім народным мастацтве традыцыю маляваных дываноў, так званых "маляванак".

Размясцілася экспазіцыя ў вежы Спаса-Праабражэнскай царквы. Яе незвычайнасць -- у дзіўным яднанні гісторыі, народнага мастацтва і духу старажытнага Заслаўя. Арганізатарамі выставы "Старонкі гісторыі Заслаўя" сталі Дзяржаўны гісторыка-культурны запаведнік "Заслаўе", Спаса-Праабражэнская царква, дабрачынная асацыяцыя "РАДА" і гарадскія ўлады.

НА ЗДЫМКАХ: на выставе "Старонкі гісторыі Заслаўя"; аўтар "маляванак" Віктар МАРКАВЕЦ; праца мастака "Заслаўе XVI--XVII стагоддзяў".

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

*ЯНЫ СПЯВАЛІ І ТАНЦАВАЛІ Ў ГОНАР ЯНА ЧАЧОТА*

# ЗІМА ПАЙШЛА ПЛАЧУЧЫ...

Сёлета грамадскасць Беларусі будзе адзначаць 200-я ўгодкі з дня нараджэння беларускага паэта і фальклярыста Яна Чачота.

З гэтай нагоды Міністэрства культуры, Беларускі саюз фальклярыстаў і Беларускі універсітэт культуры зацвердзілі праграму святкавання гэтага юбілею. На Купалле збіраюцца ўстанавіць помнік Яну Чачоту на яго радзіме ў вёсцы Малюшычы Карэліцкага раёна, арганізаваць выставу мастацкіх твораў у Карэлічах і канцэрт у філармоніі ў Мінску. Але паколькі Ян Чачот быў збіральнікам беларускага фальклору і вельмі шмат зрабіў для яго папулярызацыі, вырашылі правесці ў яго гонар першы конкурс-фестываль традыцыйных для Беларусі стрэчаньска-грамнічных гуканняў вясны. Фестываль так і назвалі "Стрэчанне-Грамніцы". Яго падрыхтавалі студэнты-рэжысёры фальклорных тэатраў Беларускага універсітэта культуры, кіраўнік курса Ілля Сучкоў. Вялі фестываль весела, дасціпна і жартаўліва Алёна Валадзько і Славік Статкевіч.

У чым сэнс гэтага зімовага фальклорнага свята? Даследчыкі мяркуюць, што назва паходзіць ад паганскага бога Грамаўніка (Перуна) -- бога вясновых навальніц, якія спрыялі росту раслiннасці. А другая назва гэтага ж свята -- Стрэчанне тлумачыцца як стрэча (сустрэча) зімы з летам, ёсць і прыказка: "Грамніца -- зімы палавіца". Таму і гукаў вясну ансамбль з вёскі Прусіна (Касцюковіцкі раён) наступнымі спевамі:

**Зіма пайшла плачучы, плачучы.**
**Лета пайшло скачучы, скачучы...**

Раней задоўга да прыходу вясны рыхтаваліся да яе: звівалі вялізныя свечкі, потым запальвалі іх ад высечанага крэсівам агню і неслі ў хату. Хрысціянства замацавала гэтую паганскую традыцыю, але свечку запальваць пачалі пасля асвячэння ў царкве. Грамнічныя свечкі шанавалі і запальвалі ў навальніцу, каб маланка не спаліла хату, падносілі да хворага як лекарскі сродак, падвешвалі ў хляве або ў стайні, каб нячыстыя сілы не шкодзілі жывёле. Дзяржава гэтыя святы забараняла святкаваць 75 год, цяперашняя пакуль не забараняе іх, а сёлета ўпершыню нават падтрымала святкаванне, выдзеліўшы грошы на прэміі праз Міністэрства культуры.

Фестываль адбыўся ў лютым. Адзінаццаць фальклорных калектываў з розных гарадоў і вёсак Беларусі сабраліся каля Беларускага саюза фальклярыстаў і арганізавалі шэсце ў нацыянальных строях да парку Горкага, дзе вадзілі карагоды, гукалі вясну не толькі харавымі спевамі, але і гарлавымі, што вельмі ўражвала прысутных. Пасля накіраваліся да Дома літаратара, перад якім "стрэчанне" зімы і лета праводзіў тэатр жывых лялек пад кіраўніцтвам Міколы Басава, а ў фае выступалі дзіцячыя фальклорныя ансамблі "Жавароначкі" і "Дударыкі" (мастацкі кіраўнік Д.Равенскі, балетмайстар М.Котаў).

Сам фестывал[illegible] конкурс адбываўся ў вялікай зале Дома літаратара, яго адкрыў старшыня Беларускага саюза фальклярыстаў Васіль Ліцвінка. Першым выступіў ансамбль "Грамніцы" Беларускага універсітэта культуры. Прыем[illegible] ўражанне надавалі ўсёй святочн[illegible] прэзе прыгожыя народныя строі дз[illegible]ат з вяночкамі на галавах, якія яны, спяваючы, кідалі на авансцэну, нібы ў раку. Дзяўчаты вельмі хараша гукалі вясну, а хлопцы пранізліва яе зазывалі, граючы на жалейках.

**Зіма з летам сустрэліся, гэй.**
**Але ўжо вясна, вясна, у-у, гу-гу...**

Выконвалі яны і вельмі складанае для выканання гарлавое гуканне і гарлавыя спевы (гэта значыць без слоў), скакалі вясёлую знакамітую "Лявоніху" і спявалі сумныя беларускія песні... "Там саколік сядзіць, у мора глядзіць" ці "Як пайду я ў белую канюшню, засядлаю каня варанога". Гэты калектыў атрымаў грамату і грашовую прэмію.

Вельмі кранулі сэрцы прысутных спевы харавога калектыву з вёскі Прусіна. Мы ўбачылі прыгожых статных жанчын сталага ўзросту ў аўтэнтычных чырвона-белых строях, упрыгожаных нізкамі пацерак, у вышытых самімі намітках. Жанчыны выглядалі як князёўны, настолькі годна яны пачуваліся на сцэне і так хораша спявалі... "А ў нас сёння стрэчанне, стрэчанне...", а потым... "Ой вясна-красна, цёпла лецечка". Плаўна, як лябёдкі, вадзілі карагод, ладна прытопвалі і скакалі пад рытміку сваіх спеваў і гуканняў...

**Уха-уха, муха-цакатуха.**
**Уха-уха, муха-чабатуха...**

Прусінскія жанчыны прадэманстравалі высокае майстэрства і атрымалі грашовую прэмію і грамату Міністэрства культуры.

З арыгінальнай праграмай выступіў ансамбль "Верніца", які выканаў не толькі беларускія танцы, але і фальклорны яўрэйскі танец "Карапет". Пры гэтым дзяўчаты і хлопцы былі апрануты ў прыгожыя адметныя строі, якія падкрэслівалі самабытны характар яўрэйскай культурнай традыцыі. Танец быў выкананы бездакорна. Вельмі добра, што, дэманструючы традыцыйную культуру Беларусі, кіраўнікі ансамбля знайшлі месца і для яўрэйскай традыцыі, якая суіснавала і суіснуе ў Беларусі.

Цёпла віталі прысутныя вядомую выканаўцу беларускіх прыпевак Тамару Ліхадзіеўскую. Яе прыпеўкі прысвечаны не толькі штодзённаму беларускаму побыту (напрыклад: "Я хацела з мужам пайсці на Грамніцы. Але няма ў мужа штаноў, а ў мяне -- спадніцы!.."), а нават маюць крытычныя заўвагі ў бок дэпутатаў Вярхоўнага Савета ("Адзін -- гаў, др[illegible] -- кусь! А таго не ўбачылі, што Р[illegible]у прасабачылі!"). Спявала яна і [illegible]жыццесцвярджальныя прыпеўкі: "Бо пакуль гармонік йграе, Беларусь будзе жыць!"

Увогуле добрае відовішчнае ўражанне пакінулі адметныя сцэн[illegible]ыя касцюмы ансамбляў "Кірмаш" і [illegible]радніца" і "Верніца", якія адышлі [illegible]ра манюкоўскіх канкрэтных строяў пэўных рэгіёнаў, але былі створаны дызайнерамі з улікам агульных рысаў і беларускага нацыянальнага касцюма, і яго лакальных колераў, галаўных убораў -- павояў, намітак і каптуроў.

Удала выкарысталі стылістыку, колеры і пластыку беларускага нацыянальнага касцюма ўдзельнікі ансамбля "Кірмаш". Яны прымянілі для гэтай мэты майстэрства трыкатажнага "ткацтва". Іх праграма складалася з асобных спеваў і танцаў, арыгінальна прагучала іх бадзёрая рытмічная песня "Запрагу я каня, звязу сена са двара, розачка я, розачка я!.."

Не хацелі адпускаць са сцэны і вызывалі на "біс" гродзенскі ансамбль "Гарадніца". Ён выступіў у адмысловых строях былых мяшчан Гродна, а не сялян, з уласным наборам музычных інструментаў: акрамя жалейкі, скрыпкі, бубна, іграў яшчэ і кантрабас. Гродзенцы спявалі песні як сумныя баладнага характару "Ляцелі гусі з далёкага краю, памуцілі ваду на сінім Дунаю", так і падараваную ім песню беластоцкіх беларусаў з вёскі Таневічы "Каліна-маліна" і жартаўлівую -- з арыгінальным вясёлым рэфрэнам "Чучарыла, чучарыла, чурым-бом!"

Але самае незвычайнае ўражанне на ўсіх зрабіў Міхась Басякоў. Як кажуць, мурашкі пайшлі па скуры, калі мы пачулі яго унікальнае гарлавое гуканне вясны (без музыкі і слоў). Моц яго голасу фізічна ўздзейнічала на слухачоў, голас зачароўваў і ліўся нібы з космасу, ахінаючы ўсіх. Гэтай рэдкай у наш час традыцыі гарлавога гукання вясны навучыла яго бабуля, сям'я якой была саслана з Беларусі ў Сібір. Там Міхась і нарадзіўся, але, маючы свядомасць беларуса, пераехаў жыць на радзіму сваіх продкаў. Слёзы засцілалі вочы, калі Басякоў звярнуўся да залы са шчырым заклікам: "Людзі! Трэба фінансава і маральна падтрымаць тых сапраўдных носьбітаў фальклорных і культурных векавых традыцый,

(Заканчэнне на 8-й стар.).

## СВЕТ ПРАЗ АСОБУ ПІСЬМЕННІКА

Другі раз звяртаюцца беларускія кінадакументалісты да постаці нашага незабыўнага Уладзіміра Караткевіча. Пасля ягонай смерці рэжысёр Юрый Цвяткоў стварыў хрэстаматыйны партрэт пісьменніка ў фільме "Быў, ёсць, буду", дзе на працягу пяцідзесяці хвілін распавядаецца пра ягоны жыццёвы і творчы шлях, адносіны з сябрамі, уладамі.

Творчая група ў складзе рэжысёра Сяргея Лук'янчыкава, сцэнарыста Рыгора Барадуліна і аператара Анастасіі Суханавай паставіла перад сабою больш складаную задачу -- стварыць фільм-роздум, у якім праз асобу пісьменніка, ягоны духоўны свет паспрабаваць асэнсаваць наша жыццё, дзень сённяшні. Гэтая задума была рэалізаваная ў дакументальнай стужцы "Акафіст Уладзіміру". Што з гэтага атрымалася, можна было пабачыць і пачуць 27 лютага ў сталічным Доме літаратара, дзе адбылася прэзентацыя новага фільма. Запоўненая зала красамоўна сведчыла пра цікавасць да Караткевіча. У асноўным гэта была студэнцкая моладзь, а таксама пісьменнікі, сябры, сваякі -- адным словам, усе, хто любіць Караткевіча і шануе памяць аб ім.

Напачатку гледачы пазнаёміліся з стваральнікамі фільма і яго героямі. Цёпла сустрэлі яны мастацкага кіраўніка студыі "Летапіс" Уладзіміра Халіпа і дырэктара "Беларусьфільма" Юрыя Цвяткова. У сваім кароткім слове яны гаварылі пра кінакарціну, пра пастаўленыя задачы і цяжкасці. Той факт, што фільмы па нацыянальнай тэматыцы становяцца ўсё карацейшымі, што існуюць яны, як правіла, у адным экзempлярах і з'яўляюцца на свет усё радзей, -- гаворыць пра многае. Відаць, далёка не ўсё гладка на шляху выканання беларускімі кінадакументалістамі праграмы "Адраджэнне". Не выпадкова ж Юрый Цвяткоў у сваім выступленні зазначыў, што студыя **змагаецца** за нацыянальную тэматыку, і няўпэўнена дадаў -- амаль паспяхова.

Непрыкметна пралятае васемнаццаць хвілін экраннага часу. І зноў -- развагі, пытанні, гамонка. Адчуваецца неадназначнасць успрыняцця фільма. Адзін за адным выходзяць да мікрафона людзі. Сярод іх пісьменнік, сябра Караткевіча Адам Мальдзіс, народны мастак Гаўрыла Вашчанка, даследчык творчасці пісьменніка Анатоль Верабей. Яны адзінадушныя ў тым, што фільм зроблены таленавіта, цікава, экспрэсіўна, што ён не столькі пра Караткевіча, колькі пра ўспрыняцце кожным з нас Караткевіча. Гаўрыла Вашчанка прыгадаў у сувязі з гэтым прэзентацыю фільма Андрэя Таркоўскага "Андрэй Рублёў", дзе выказваліся аналагічныя думкі. Пры гэтым ён звярнуў увагу на цікавыя аператарскія знаходкі ў фільме Лук'янчыкава. Мастацкім дакументам нашага часу назваў гэты фільм Анатоль Верабей.

Гаварылі і нашыя гледачы -- усе старэйшага пакалення. Словы падзякі ў адрас стваральнікаў фільма выказала Наталля Кучкоўская, сястра Караткевіча. Расчулена лямантаваў, згубіўшы сябе ў гэтым жыцці, паэт Анатоль Сыс. Маўчала большасць залы -- моладзь, як маўчалі і героі гэтай стужкі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Пётра Драчоў, Наталля Кучкоўская і яе ўнук. Сваім маўчаннем яны, мабыць, сказалі больш. А мне пасля гэтага фільма ўспамінаюцца неўміручыя радкі Караткевіча: "Сцюжны час, бязмежна суровы. Спіць народ, нібы зерне ў раллі..."

Ірына ЛЯКСЕЕВА.

*ПОШУК ВЫТОКАЎ*

# ПЕСНІ РАДЗІМЫ КОЛАСА

Класічная беларуская паэзія самым цесным чынам пераплецена з фальклорнымі традыцыямі. Сведчыць пра гэта сама творчасць Якуба Коласа, Янкі Купалы, Аркадзя Куляшова. Фальклор -- школа і для сучасных майстроў вершаванага слова. Шкода вось толькі, што не часта апошнім часам даследуюцца народныя, глыбінныя карэнні паэзіі.

І як прарыў на фоне агульнай інфантыльнасці і ўсебеларускай сённяшняй млявасці з'яўляецца праца маладой даследчыцы Людмілы Камароўскай "Народныя песні радзімы Якуба Коласа". Укладзеныя руплівай збіральніцай пабачылі свет ужо два зборнікі пад гэтай назвай. Першая кніга -- у 1994 годзе. Другая -- летась, у 1995. У прадмове да першага выпуску Людміла Камароўская нагадвае наступныя словы вялікага песняра: "Роднае слова -- гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет. Пагэтаму вам неабходна так старанна вывучаць сваю родную мову, ведаць і любіць лепшыя творы беларускай літаратуры. І перш за ўсё трэба ведаць свой народ, яго гісторыю, яго багатую вусную творчасць". Сказанае Коласам гучыць як запавет. Пачуць бы яго ўсім, хто нераўнадушна ставіцца да будучага лёсу беларускай мовы.

Людміла Камароўская падкрэслівае, што ў мінулым на радзіме паэта існавалі багатыя фальклорныя традыцыі. І сёння ў "родным куце" паэта гучаць песні яго продкаў, перадаюцца ў спадчыну, як самы дарагі скарб, паданні, легенды, звычаі, народныя абрады. Але найбольш ахвотна прытрымліваецца моладзь Стаўбцоўшчыны вясельных, хрэсьбінных абрадаў, адзначае Гуканне вясны, Каляды, Купалле і іншыя святы.

Уражвае абсяг карэспандэнтаў, з якімі давялося працаваць даследчыцы. Што датычыцца першага выпуску зборніка песень, то Л. Камароўская патлумачвае, што большасць твораў запісана ў 1993-1994 гадах ад удзельнікаў народнага фальклорнага калектыву "Коласавы землякі" -- М. Скарабагатага, С. Камароўскай, Н. Стомы (в. Мікалаеўшчына), паасобныя песні запісаны ад А. Мамонька, Т. Падамоцька (в. Жыгалкі), Н. Рачок (в. Мясёнкаўшчына), М. Аляшкевіч (в. Грабёнаўшчына), Г. Атрушкевіч (в. Кнотаўшчына), І. Крыкала (в. Шахноўшчына). Дапамогу ў зборы песень у вёсках Грабёнаўшчына, Шахноўшчына, Кнотаўшчына, Мясёнкаўшчына, Жыгалкі аказалі І. Ермаковіч, А. Доўнар.

Наўмысна пераказваю ўсе прозвішчы. Відавочна, што кожны з гэтых людзей цікавы сам па сабе, з'яўляецца носьбітам коласаўскай фальклорнай аўры. Мажліва, далейшы шлях даследчыцы выведзе ўкладальніцу зборніка да спалучэння фальклорных зацікаўленняў з этнаграфічнымі, краязнаўчымі росшукамі. Масавага ж чытача заўсёды цікавяць акалічнасці, атмасфера, дэталі.

Другі зборнік, укладзены Людмілай Камароўскай, шырыць геаграфію доследу ("...уключаны песні, запісаныя ад жыхароў Стаўбцоўшчыны ў вёсках Ячонка, Заямнае, Жукаў Барок, Слабада, Гуменаўшчына, Савані, Горкі, Жацерава, Раёўшчына. Усе песенныя тэксты падаюцца з захаваннем лексічных і фанетычных асаблівасцей мясцовай гаворкі. У зборніку сустракаецца некалькі варыянтаў аднoй песні, запісанай у розных вёсках, шмат адметных, каларытных песень, якія з'яўляюцца ўзорам паэтычнага майстэрства, выразнасці, трапнасці і багацця мовы").

Уважлівае знаёмства з двума выпускамі зборніка "Народныя песні радзімы Якуба Коласа" падштурхоўвае і да наступных разваг. Заслугоўвае ўвагі ўся народная творчасць коласаўскіх мясцін як прадмет, шчыльна звязаны з плёнам працы вялікага песняра. Прыказкі і прымаўкі, казкі, быліны ды шмат што яшчэ -- усё гэта патрабуе збору, даследавання, дэталёвага вывучэння. Пачатак пакладзены. Зробленае Людмілай Камароўскай можа паслужыць прыкладам.

Варта згадаць, што абодва выпускі выдадзены зусім не высілкамі дзяржаўных выдавецтваў. Месца выдання -- Стоўбцы, радзіма Коласа. Адказны за выпуск -- Анатоль Грэкаў. ...ад і першага, і другога выпускаў -- 500 ...онікаў.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



Можна сказаць, што ўласны заапарк займелі жыхары вёскі Брашэвічы Драгічынскага раёна дзякуючы работнікам мясцовага лясніцтва. Гэта іх стараннямі ў вялікім вальеры на тэрыторыі гаю, што прымыкае да вёскі, утрымліваецца статак плямістых аленяў і выратаваная імі ж у лесе ласіха, якую назвалі Машкай. І леснікі, і самі вяскоўцы падкормліваюць шэрых курапатак, якіх многа жыве ў наваколлі вёскі.

Па словах ляснічага Аляксея Казака, плошча лясніцтва перавышае 9 тысяч гектараў, а жывёл у лесе малавата. Вось і вырашылі разводзіць іх у вальерах і выпускаць потым на волю. Больш трыццаці асобін ужо знайшлі свой прыстанак у навакольных гаях -- іх сустракалі леснікі. Зарэгістраваны і выпадкі з'яўлення патомства ў плямістых аленяў на волі. Шкада, што павялічылася ў мясцовых лясах і колькасць лю... й з ружжом. На думку ра... ікаў лясніцтва, не пашкодзіла б на некалькі гадоў, пакуль стане жывёлін больш, адмяніць тут паляванне ўвогуле.



**НА ЗДЫМКАХ:** вальер, дзе разводзяць плямістых аленяў; у надзеі на падкормку бліжэй да жылля падбіраюцца шэрыя курапаткі.

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## НАВАГРУДАК І ЯГО ЖЫХАРЫ





"Міс-Навагрудак", "Беларуская князёўна" -- гэтыя званні ў мінулым годзе заваявала на конкурсах студэнтка Навагрудскага гандлёва-эканамічнага тэхнікума Наталля МЯДЗВЕДЗЬ; летапісцам Навагрудка стаў выпускнік гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а цяпер супрацоўнік мясцовага краязнаўчага музея Мікалай ГАЙБА. Ім напісаны дзве кнігі пра мінулае старажытнага горада.

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**

# ЗІМА ПАЙШЛА ПЛАЧУЧЫ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).**

якія яшчэ жывуць у вёсках. Бо кожны рэгіён Беларусі мае адметнае ўласнае гуканне вясны -- гэта вялікія беларускія скарбы, яны гінуць, засталіся ўжо адзінкі, хто яшчэ можа перадаць традыцыю нашчадкам".

Маладзёжны ансамбль "Горліца" выконваў гуканне вясны, запісанае ў забруджаных чарнобыльскім выбухам рэгіёнах. Сярод іх запомнілася песня "Як на рэчцы, на дашчэчцы красна дзеўчына палошчыцца"...

Вельмі арыгінальна выконваў гуканне вясны ансамбль "Ліцьвіны" (мастацкі кіраўнік Уладзімір Бербераў): сольнымі гукамі скрыпкі і дуды. Гэта было незабыўнае поліфанічнае гучанне двух такіх розных інструментаў.

Завяршыў конкурсны фестываль вядомы ансамбль Беларускага дзяржаўнага універсітэта "Неруш" (мастацкі кіраўнік Валянціна Гладкая). Яго паяўленне на сцэне віталі апладысментамі. Удзельнічаюць у ансамблі і малыя дзеткі ў нацыянальных строях, і маладзіцы, і дзяўчаты, і жанчыны сталага ўзросту. І ўсе яны ў вытанчаных па крою і каларыце бела-чырвоных строях. Пасуе ім і белае адзенне хлапчукоў у белых скураных пастолах.

Удзельнікі ансамбляў далі магчымасць кожнаму з прысутных у зале адчуць сябе больш годна, дакрануўшыся да каранёў нашай багатай спадчыны і ўбачыўшы такіх таленавітых выканаўцаў. Твары ўсіх свяціліся ад радасці і ўсведамлення, што ўсе мы адзіны народ, што перад намі былі таленавітыя прашчуры і ёсць таленавітыя нашчадкі. Усе ўдзельнікі былі вартыя грашовых прэмій, але астатніх узнагародзілі рознымі падарункамі.

Бываючы на такіх фальклорных святах і фестывалях, разумееш, што яшчэ не ўсе беларусы адракліся ад сваёй мовы і культуры. Яны вывучаюць сваю традыцыйную культурную спадчыну ў вольны час і нясуць яе людзям.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 296. Падпісана да друку 18. 3.1996 г.